*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 39 (251) | 27 верасня 1995 г. | Кошт — 500 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА БЕЛАРУСІ ПЕРАДАЛА** Святы Агонь ад гроба Гасподняга Каталіцкай царкве Беларусі.

○ ***У ГУТАРЦЫ З КАРЭСПАНДЭНТАМ «ЗВЯЗДЫ» ЛІДЭР БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ГРАМАДЫ МІКАЛАЙ СТАТКЕВІЧ СКАЗАЎ:*** *«Мы вяртаемся да нашай партыйнай праграмы, якая нібыта заставалася, але яна была невядомая для насельніцтва на фоне ідэалогіі БНФ, пад крылом якога была БСДГ. Імідж БНФ у асноўным ідэалістычны, пры слове «БНФ» у простага чалавека ўсплываюць наступныя асацыяцыі: мова, гісторыя, антырасійскія настроі. Людзі ж галасуюць за сацыяльнае, і не трэба лічыць, што нацыя такая кепская... Мы ж цяпер вяртаемся да пазіцыі нармальнай сацыял-дэмакратычнай партыі, якая, бясспрэчна, застаецца патрыятычнай сілай».*

○ **З ДРУКУ СТАЛА ВЯДОМА,** што былы старшыня праўлення Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч заявіў кіраўніцтву Аб'яднана-дэмакратычнай партыі Беларусі аб афіцыйным сваім уступленні ў іх партыю пасля аб'яднальнага з'езда АДПБ і Грамадзянскай партыі.

○ ***75 ГАДОЎ НАЗАД*** *у Менску спектаклем «Рысь» (паводле аповесці Э.Ажэшкі «У зімовы вечар») адкрыўся Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр (з 1926 года — БДТ-1, з 1944 года — імя Янкі Купалы, з 1965-га — акадэмічны, з 1993-га — Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы).*

○ **УТВОРАНА ЯШЧЭ АДНА (ПАСЛЯ СДС) КААЛІЦЫЯ ПАРТЫЙ — «АДЗІНСТВА»**, якая, верагодна, будзе зарэгістравана як выбарчы блок у Цэнтрвыбаркаме і будзе ўдзельнічаць у парламенцкіх выбарах у якасці адной палітычнай сілы. У гэты блок увайшлі Беларуская народная партыя, Беларуская нацыянальная партыя, Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць і Хрысціянска-дэмакратычны выбар. Вышэйшым органам утворанай кааліцыі з'яўляецца палітычная рада, у якой будуць па тры прадстаўнікі ад кожнай партыі.

○ ***НАЦБАНК БЕЛАРУСІ ЎВЁЎ У ЗВАРОТ*** *банкноту у 50 000 рублёў. «Пагоні» на ёй няма. Затое ёсць пяцікутная зорка карычневага колеру.*

○ **БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ МІРУ ВЫСТУПІЎ З ІНІЦЫЯТЫВАЙ** аб абвяшчэнні 1996 года Годам чарнобыльскай трагедыі. Паколькі ў будучым годзе спаўняецца 10 гадоў з дня трагедыі, старшыня камітэта Іван Кірычэнка спадзяецца, што ініцыятыва будзе падтрымана ў першую чаргу ўрадам нашай краіны.

○ ***СУПРАЦОЎНІК ПРЭС-ГРУПЫ ЎПРАЎЛЕННЯ КДБ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ СЯРГЕЙ БАГДАНОВІЧ У ГУТАРЦЫ З КАРЭСПАНДЭНТАМ «МАГІЛЁЎСКІХ ВЕДАМАСЦЯЎ» ПАВЕДАМІЎ,*** *што пошукі крыжа Ефрасінні Полацкай далі пэўны плён. Па адной з версій крыж і не пакідаў Магілёў, а па другой — крыж разам з іншымі каштоўнасцямі быў эвакуіраваны ў Расію.*

## «Беларускі кнігазбор»



11 верасня ў канферэнц-зале Дома літаратара адбылася прэзентацыя серыі кніг Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку «Беларускія паэты і пісьменнікі на эміграцыі», у якой прынялі ўдзел, з аднаго боку, славутыя дзеячы беларускага адраджэння на захадзе Зора і Вітаўт Кіпелі, а з другога боку, «тутэйшыя» прадстаўнікі беларускай навукі і літаратуры. Імпрэза была арганізавана міжнародным фондам «Беларускі кнігазбор» і Саюзам беларускіх пісьменнікаў. (Рэпартаж з прэзентацыі — у наступным нумары.)

**І.К.**
**Фота Ул. КАРМІЛКІНА.**

## ТБМ: рыхтуемся да з'езда

# Гістарычная свядомасць — трываласць нацыі

Перад чарговым з'ездам прынята гаварыць пра набыткі, дасягненні, неразвязаныя праблемы. Аднак сёння наша агульная справа зазнала такія страты, найперш у галіне школьніцтва, што гэтая гаворка, здавалася б, у значнай ступені губляе свой сэнс, падаецца другаснай і нават дробязнай. Але, на мой погляд, не варта занадта драматызаваць сітуацыю. Усялякая справа трывалая, калі робіцца настойліва, мэтанакіравана, усвядомлена. Залішняе спадзяванне на хуткі поспех, як вядома, спараджае ілюзіі, а затым — непазбежнае расчараванне.

Падзяляючы думку, што вялікія справы робяцца маленькімі крокамі, я хацеў бы засяродзіць увагу на двух аспектах дзейнасці Таварыства беларускае мовы — тэрміналагічным і выдавецкім, якія, маючы актуальнае значэнне, усё ж болей арыентаваныя на перспектыву.

Тут мы маем пэўныя набыткі. Праца Тэрміналагічнае камісіі ТБМ, распачатая яшчэ ў 1990 годзе, сталася плённаю дзякуючы, па-першае, прыцягненню шырокага кола зацікаўленых выкладчыкаў і навукоўцаў, па-другое, арганізацыі сталых семінараў і, па-трэцяе, рэальнай магчымасці публікацыі вынікаў на грунце шчыльнага супрацоўніцтва з Выдавецкай камісіяй ТБМ. Тэрміналагічная дзейнасць абымала розныя галіны ведаў: матэма-

*(Працяг на с.2.)*

## З нагоды

# Перарэгістрацыя — толькі на падставе Закона, —

так адказаў на вуснае запытанне журналістаў «Нашага слова» 8 верасня 1995 г. намеснік міністра культуры і друку Іван Карэнда.

Ён рашуча абвергнуў тую інфармацыю, якая «праскочыла» ў газеце «Свабода» (№ 36, 8 верасня г.г.), дзе ў рэдакцыйным паведамленні аб арышце банкаўскага рахунку гэтай газеты, у прыватнасці, паведамлялася: «Наколькі нам вядома, ставіцца мэта на перыяд выбарчай кампаніі пад выглядам перарэгістрацыі газэтаў прыкрыць некалькі выданняў».

Іван Арсеньевіч сказаў, што сапраўды Міністэрствам культуры і друку праводзілася перарэгістрацыя тых выданняў, якія мелі ў сваёй назве слова «Беларусь». На гэта быў адпаведны Закон, і згодна яму падобную перарэгістрацыю прайшлі грамадскія і грамадска-палітычныя арганізацыі.

Па Закону ж аб друку і іншых СМІ, растлумачыў намеснік міністра, перарэгістрацыя перыёдыкі можа адбывацца, калі ў той ці іншай газеце або часопісе адбываюцца змены ў заснавальніцтве ці трэба выданню змяніць загаловак і г.д.

Што да перарэгістрацыі газет па палітычных прычынах, то на гэты конт ніхто Мінкультдруку ніякіх указанняў не аддаваў і наўрад ці такое парушэнне законнасці магчыма.

Вельмі хацелася б верыць нашаму паважанаму нам. міністра. Але ў часы, калі вышэйшыя ўладатрымальнікі ажыццяўляюць нічым не прыкрыты ўціск на прэсу, радыё і тэлебачанне, калі прыпыняецца выхад газет, як гэта адбылося з «Добрым вечарам», або арыштоўваюцца банкаўскія рахункі, як тое мае месца з «Свабодай», ці затрымліваецца рассылка газет падпісчыкам, як гэта нядаўна здарылася з «Нашым словам», міжволі падумаеш: а раптам?

**А.М.**

# Дзень вайсковай славы



8 верасня беларускія нацыянал-патрыёты адзначалі вялікае свята — дату перамогі беларускім войскам на чале з Кастусём Астрожскім маскоўскага войска пад Оршай (1514 г.) З той нагоды, што менская гарадская рада забараніла гэтае святкаванне на вуліцах і плошчах горада — арганізацыйны камітэт вырашыў адзначыць свята ў памяшканні (Дом літаратара). Але, як было задумана, перш адбылося ўскладанне кветкаў да помнікаў Янку Купалу і Максіму Багдановічу. Згуртаваўшыся на «купалаўскім пляцы», ініцыятары, так бы мовіць, здзейснілі ўступ да святкавання. Пад бел-чырвона-белымі сцягамі спявалі беларускія песні. Міліцыя гучна абвясціла аб забароне святкавання й шэсця. Але ж пайшлі. Да Максіма Багдановіча. Ахоўнікі правапарадку ехалі ўздоўж і праз мегафон патрабавалі спыніць шэсце. Некаторыя супрацоўнікі міліцыі былі з сабакамі. Ехалі машыны са спецназам. Усё ж дайшлі й да Максіма. Дзякуй Богу, і на гэты раз не адбылося сутычкі з міліцыяй. Ніводны з бакоў не наважыўся пайсці на канфлікт. Затым — шлях у Дом літаратара.

Выступалі А.Марачкін, А.Грыцкевіч, З.Пазьняк і іншыя. А.Марачкін аб'явіў хвіліну маўчання. А.Грыцкевіч распавядаў пра бітву пад Оршай і тагачасную палітычную сітуацыю. З.Пазьняк адзначыў, што Аршанская бітва 1514 года была тыповай для беларускага войска. Лідэр БНФ вызначыў тры перавагі ваяроў К.Астрожскага: цывілізаванасць войска, вялікі ўзровень вайсковага майстэрства і адносіны між людзьмі.

Г.Смоляк выступала з дзіцячым хорам. Першую песню — «Магутны Божа...» — па традыцыі спявала стоячы зала. І.Смоляк, прамаўляючы, філасофствавала аб духоўнасці. Яе доўгі выступ атрымаўся дужа цікавы: песні, вершы, прамова. Зала падпявала ёй і хору, калі гучала:

Гэй, беларусы! Дружна ўстанем!
Наладзім з Богам свой хаўрус!
Пакуль жыве між нас яднанне —
Датуль жыве і Беларусь.

Выступалі таксама барды. Гучалі народныя мелодыі (М.Лявончык граў на цымбалах). Добра выступіў і ансамбль «Менскі гармонік».

Вядома ж, гэтае святкаванне вялікай перамогі адбылося далёка не так, як карцела арганізатарам. У лепшыя часы на пляцы «Парыжскай камуны» месца хапала ўсім.

Цяпер, праз малыя габарыты памяшкання, некаторым давялося прастаяць некалькі гадзінаў.

**Ґенадзь КАЖАМЯКІН.**
**Фота Ул. КАРМІЛКІНА.**

ТБМ: рыхтуемся да з'езда

# Гістарычная свядомасць — трываласць нацыі

*(Працяг. Пачатак на с.1.)*

тыку, фізіку, біялогію, хімію. Лічу сваім абавязкам назваць імёны людзей, якія найбольш спрычыніліся да гэтае працы: Павел Міхайлаў, Вінцук Вячорка, Людміла Шлома, Тамара Сухая, Галіна Сяржаніна, Васіль Бернік, Уладзімір Самайлюковіч, Васіль Юфераў, Яраслаў Міляшкевіч, Алег Александровіч.

Зразумела, гэтая справа не магла заставацца ў рамках толькі семінараў і таму знайшла свой лагічны працяг у нацыянальных навуковых канферэнцыях, праведзеных у 1994 і 1995 гадах пад агульным назовам «Праблемы беларускай тэрміналогіі». Асноўны клопат у іх арганізацыі ўзялі на сябе Язэп Стапановіч і Святлана Бельская. Значэнне праведзеных форумаў цяжка пераацаніць; гэта, без перабольшання, этапная з'ява ў развіцці нашае мовы.

Сёння мы ўжо маем «Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы», «Руска-беларускі фізічны слоўнік», «Слоўнік па заалогіі і паразіталогіі», «Слоўнік мікалагічных тэрмінаў», выпушчаныя Выдавецкай камісіяй Таварыства (найбольш актыўныя яе сябры — Мікола Гесь, Наталя Дашкевіч, Неаніла Баранава). Акрамя слоўнікаў, прапагандысцкіх брашур, кніжак па культуры мовы, гэтая камісія падрыхтавала і выдала шэраг гістарычна-асветніцкіх кніг: «Западно-руссизм» А.Цвікевіча, «Беларусь учора і сяньня» Я.Найдзюка, «Геаграфія Беларусі» А.Смоліча, «100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі». Мы лічым выданне такой літаратуры надзвычай важным, бо гістарычная свядомасць, поруч з роднаю моваю, з'яўляецца складовай часткай трываласці, імунітэту нацыі.

Беларус, адлучаны ад сваёй мовы і гісторыі, знаходзячыся ў сферы ўплыву чужых сродкаў масавай інфармацыі, успрымае і чужую культуру, і чужую самасвядомасць (хоць гэта, зразумела, эрзац-культура і эрац-свядомасць). Ён, прыкладам, перажывае за няўдачы маскоўскага «Спартака» (для яго гэта «нашы»), ён шкадуе, што Расія прадала Аляску, ён абураецца, што японцы патрабуюць вярнуць Курылы... Але ён абыякавы да праблемаў сваіх суайчыннікаў у Вільні ці на Беласточчыне. Ён ужо не здольны ўсведамляць нацыянальныя інтарэсы, бо глядзіць на свет праз чужыя акуляры.

Менавіта невысокая нацыянальная свядомасць большыні насельніцтва Беларусі — першапрычына адсутнасці станоўчых пераменаў у нашай краіне. Таму, на мой погляд, большы акцэнт у сваёй дзейнасці мы мусім зрабіць на паслядоўнай асветніцкай працы. Яна непрыкметная, вынікі яе часцей за ўсё аддаленыя, але яна абсалютна неабходная. Змены адбываюцца толькі ў тым грамадстве, якое падрыхтаванае да іх.

**Зміцер САНЬКО,**
**намеснік старшыні**
**Таварыства беларускай мовы**
**імя Ф.Скарыны.**

# Збіраць сілы для абароны роднай мовы

Сёмы год дзейнічае на Беларусі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. За мінулыя гады прыхільнікі нацыянальнага адраджэння, якіх згуртавала Таварыства, абаранілі і прапагандавалі беларускае слова, вярталі народу ягоную родную мову.

У сучасны момант ТБМ аб'ядноўвае каля 140 гарадскіх, раённых, рэгіянальных суполак. Пры непасрэдным удзеле ТБМ падрыхтаваны Закон аб мовах, праведзена шэраг значных акцый па далучэнні да клопатаў нацыянальнага адраджэння шырокіх колаў грамадскасці (навукова-практычныя і тэматычныя канферэнцыі, «круглыя сталы», звароты да грамадзян Беларусі і інш.). Вялікі грамадскі рэзананс атрымаў «круглы стол», прысвечаны пятым угодкам прыняцця Закона аб мовах, які быў праведзены 31 студзеня г.г. у Доме літаратара. Дзякуючы актыўнай падтрымцы сродкаў масавай інфармацыі і, у першую чаргу тэлебачання і радыё, на высокім прафесійным узроўні былі падрыхтаваны цыкл тэле- і радыёперадач, што садзейнічала ўдзелу ў пасяджэнні «круглага стала» многіх тысяч грамадзян Беларусі.

Сакратарыятам ТБМ зроблены пэўныя захады па арганізацыйным умацаванні мясцовых арганізацый ТБМ.

У 1993 годзе ўтвораны Магілёўская (старшыня Рады Міхась Булавацкі) і Гарадзенская (старшыня Рады прафесар Гарадзенскага універсітэта Сцяцко Павел Уладзіміравіч) абласныя арганізацыі ТБМ. У кастрычніку мінулага года праведзена ўстаноўчая канферэнцыя Гомельскай абласной арганізацыі. Яе старшынём канферэнцыя аднагалосна абрала пісьменніка Анатоля Бароўскага. Дзякуючы намаганням шчырага прыхільніка роднай мовы прафесара Брэсцкага педінстытута Сяргея Анатольевіча Яскевіча ў гэтым годзе заснавана Брэсцкая абласная арганізацыя ТБМ. Яе старшынём быў абраны Сяргей Анатольевіч. За справаздачны перыяд створаны арганізацыі ТБМ у некаторых раёнах рэспублікі. Сярод іх Шклоўская раённая арганізацыя (28 лістапада 1994 г.), якую ўзначаліла карэспандэнт раённай газеты Вольга Паўлава.

З сакавіка 1990 г. пачала выходзіць штотыднёвая газета Таварыства беларускай мовы «Наша слова». За час свайго існавання газета, яе рэдакцыйны калектыў шмат зрабіў дзеля адраджэння беларускай мовы, аб'яднання рупліўцаў нацыянальна-культурнага адраджэння Бацькаўшчыны. За мінулыя гады сябры Таварыства прапагандавалі беларускае слова не толькі ў Беларусі, але і ў многіх краінах далёкага і блізкага замежжа. Згуртаванні прыхільнікаў беларускай мовы, актыўных змагароў за яе адраджэнне дзейнічаюць у ЗША і Англіі, Канадзе і Аўстраліі, у Польшчы, Латвіі, Летуве і Эстоніі. У Маскве, Санкт-Пецярбургу і Ашгабадзе, іншых гарадах. Змястоўную і актыўную працу сярод беларусаў Латвіі праводзіць Рыжская арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны «Прамень» (старшыня Рады Алесь Карповіч). На пачатку гэтага года сябры гэтага таварыства пачалі выдаваць газету беларусаў Латвіі «Прамень» (рэд. Лявон Шакавец). Дарэчы, у дзень, калі пачне работу IV з'езд ТБМ, Рыжскай арганізацыі ТБМ споўніцца 5 гадоў. Карыстаючыся нагодай, шчыра павіншуем нашых сяброў — прыхільнікаў беларускай мовы ў Латвіі і падзякуем ім за карысную, плённую працу. Сёння нельга адназначна гаварыць аб актыўнасці мясцовых арганізацый ТБМ. Як і раней, плённа працуюць Лідская, Маладзечанская, Салігорская, Гомельская, Светлагорская, Полацкая, Круглянская, Баранавіцкая, Навагрудская, Аршанская. Трэба шчыра прызнаць, што як мясцовыя арганізацыі ТБМ, так і Сакратарыят Рэспубліканскай Рады ТБМ працуюць у вельмі складаных, цяжкіх умовах. Асабліва гэтыя ўмовы пагоршыліся пасля рэферэндуму па моўным пытанні, у выніку якога ў складанае становішча трапілі самыя шчырыя прыхільнікі ТБМ — настаўнікі. Пры той агромістай рабоце, якую вядуць мясцовыя арганізацыі ТБМ, Рэспубліканская Рада дзеля вырашэння адказнай і высакароднай задачы адраджэння роднай мовы, з боку дзяржавы няма ніякай падтрымкі. Уся работа вядзецца на грамадскіх пачатках і ўсё трымаецца на самаахвярнасці шчырых рупліўцаў роднай мовы. Між тым, Таварыства ўкраінскай мовы імя Тараса Шаўчэнкі на Украіне знаходзіцца на ўтрыманні дзяржбюджэту Украіны.

У цяжкіх і складаных умовах працуе і газета «Наша слова». Былі выпадкі, калі выпуск газеты па прычыне адсутнасці сродкаў затрымліваўся. Каб не пакрыўдзіць падпісчыкаў, прыходзілася выпускаць здвоены нумар.

Сёння хочацца падзякаваць арганізацыям, прыватным асобам, якія аказваюць матэрыяльную падтрымку ТБМ і рэдакцыі газеты «Наша слова». Нядаўна, напрыклад, жыхар Старобіна сп. Гурыновіч пералічыў 50 тыс. рублёў для газеты «Наша слова». Са сваёй сціплай пенсіі былы настаўнік з Камянца сп. Іван Жытко ўжо некалькі разоў прысылаў грошы для ТБМ.

Мы вельмі ўдзячны Гомельскаму дырэктару МВПА імя Я.Коласа В.І.Германаву, які прыняў па нашай просьбе нялёгкае для яго рашэнне аб змяшчэнні аплаты за выданне брашуры са Статутам ТБМ у суме 2 млн. 360 тыс. рублёў. Шчыра дзякуем акцыянернаму таварыству «Спортплюс», ад якога мы атрымалі спонсарскую дапамогу ў суме 615 тыс. рублёў (дырэктар Піскун Андрэй Уладзіміравіч, камерцыйны дырэктар Занкевіч Сяргей Міхайлавіч). Пры абмеркаванні на Сакратарыяце ТБМ 23 траўня г.г. пытання «Аб дзейнасці арганізацый ТБМ у сувязі з вынікамі рэспубліканскага рэферэндуму па моўным пытанні», было падкрэслена, што вынікі рэферэндуму стварылі сітуацыю, якая вымагае ад усіх нас пошукаў новых форм і метадаў работы, аб'яднання дзеля абароны мовы ўсіх прагрэсіўных сіл. «Ні ў якім разе, — падкрэсліў старшыня ТБМ Ніл Гілевіч, — нельга дапусціць, каб новыя ўмовы паўплывалі на змяншэнне актыўнасці рупліўцаў за родную мову, а, наадварот, трэба паклапаціцца, каб умацаваць першасныя суполкі, ажывіць іх дзейнасць. Каб наша родная мова запанавала ў Беларусі паўсюдна і назаўсёды». Гэтыя ўзнёслыя словы, якія сказаў напрыканцы свайго даклада на III з'езде старшыня ТБМ Ніл Гілевіч, сёння, у пасляррэферэндны перыяд гучаць як закліч да ўсіх патрыётаў Бацькаўшчыны да актыўнай паўсядзённай барацьбы за выратаванне роднай мовы. Няхай гэтаму дапамогуць набытыя за мінулыя гады вопыт, матэрыяльныя і інтэлектуальныя здабыткі.

Трэба збіраць сілы для актыўнай абароны роднай мовы.

**В.ВІЛЬТОЎСКІ,**
**сакратар ТБМ імя Ф.Скарыны.**

*На пачатку верасня ў маёй кватэры зазваніў тэлефон.*

*— Едзеш на бардаўскі фэст пад Оршу? — пачуў я голас знаёмага — Кажуць, там усе «ультра» збіраюцца!*

*Ведаючы, што гэткім абазначэннем ён карыстаецца ў дачыненні да людзей свядомых сваёй беларускасці, я не здзівіўся пытанню. Прымеркаванае да гадавіны перамогі ў бітве пад Оршай свята бардаўскай песні на Крапівенскім полі за час свайго існавання і сапраўды сфармавала кола ўласных удзельнікаў — людзей, не абыякавых да лёсу краю — і выканаўцаў, і слухачоў, — якія збіраліся на яго з розных канцоў Беларусі.*

*— Еду, — адказаў я.*

# «Аршанскай бітвы» не было

Восьмага верасня вакол Оршы ішлі дажджы. Шафёр аўтобуса, што вёз нас з вакзала да вёскі Гацькаўшчына, недалёка ад якой адбываецца фэст, высадзіў усіх на шашы, патлумачыўшы, што далей ехаць не зможа. Апошні кіламетр давялося ісці пешшу. Тады і адбылося першае маё знаёмства з удзельнікамі свята песні.

Наперадзе мясіла нагамі мокрую гліну дзіўнаватая пара — высокая доўгавалосая дзяўчына, якая ішла, абдымаючы за талію невысокага хлопца з выгаленымі скронямі, — абое ў чорным джынсе і высокіх АМОНаўскіх бацінках... Дзяўчына паслізнулася і ледзьве не ўпала, згадаўшы пры тым на мове міжнацыянальных зносін нечыю маці.

— Я ...ею, — піскпявым галасам адказаў яе спадарожнік, і стала зразумела, што мяне ўвяла ў зман іхняя аднолькавая вопратка і неардынарнасць фрызур.

Наперадзе адкрылася Крапівенскае поле. Я здзіўлена спыніўся: месца сабе на ім знайшлі дзесяткі хлопцаў і дзяўчат, якім чорныя курткі, вузкія джынсы, армейская ўзору бацінкі, чорныя майкі з выявамі чарапоў, мерцвякоў, розных пачвар ды іншая атрыбутыка аматараў «цяжкага металу» надавала блізнячае падабенства. У парушэнне традыцый фестывалю, над полем гучала мова не пераможцаў, а пераможаных ці, дакладней, сучасны казарменны яе варыянт. Колькасна меншыя ўдзельнікі папярэдніх фэстаў са здзіўленнем глядзелі на новых яго гасцей. Здзіўленасць другога боку прысутнасцю «ультра» была не меншай.

«Нетыповыя французы», — сказаў герой фільма Эктара Бабенкі, гледзячы на парыжан, якія пару дзён таму пераехалі на сваю новую радзіму з Блізкага Усходу. На пытанне, хто і адкуль гэтыя не зусім тыповыя беларусы, я пачуў адказ аднаго з арганізатараў фэсту: гэта — запрошаныя да ўдзелу ў свяце рок-музыканты, разам з якімі прыехалі іхнія фэны.

З-за дажджу апаратура рокераў не працавала, таму першы вечар фэсту быў аддадзены выканаўцам, якія абыходзіліся без электронікі, — бардам. Як аказалася, змены адбыліся і тут. Невядома, ці ісnavала ў прыродзе праграма фестывалю, спіс запрошаных выканаўцаў ці хаця б нейкі іх адбор. Бо кожны, хто жадаў паспяваць, проста паведамляў пра гэта вядучаму фестывалю Юрыю Копціку і той без затрымкі абвяшчаў новага выканаўцу. Дзякуючы гэтаму прысутныя пазнаёміліся з мноствам спевакоў, імёны якіх, тэксты песень ды іх мелодыі наўрад ці захацеў запомніць нехта з прысутных. Да таго ж нешматлікія беларускія выканаўцы спявалі пераважна пра гаротную беларускую зямельку, пра гаротны беларускі народ, пра гаротную яго мову, ствараючы ўражанне, што сабраліся тут не свабодныя людзі — нашчадкі пераможцаў у бітве пад Оршай, а паняволеныя мазахісты. Скарыстаўшы свабодны доступ да мікрафона, свята разнастаіў выканаўца распаўсюджанага ў расійскім фальклоры стылю зладзейскай песні, праспяваўшы расійскі раманс пра маладога вязня, якога па снезе Калымы вядзе на расстрэл родны брат, адбіўшы перад тым у небаракі каханую.

— Ну что, понравілось? Я вам ешчё блатнее могу спеть — так, что вы все кіпятком пісать будете! Хотіте — похлопайте! — прапанаваў ён, нацвёрда вымаўляючы словы.

«Ультра», якія пра Калыму і без таго добра ведалі з расказаў старэйшага пакалення і ў дадатак не захапляліся расійскімі рамансамі, прапанову не прынялі. Змаўчалі і рокеры — аматары іншых тэм і рытмаў. Становішча паспрабавала палепшыць нейкая дзяўчына, праспяваўшы чарговую расійскую песню, але пазбаўленую блатной рамантыкі. Слухачы па-ранейшаму маўчалі — адны, успамінаючы папярэднія фэсты, чакалі беларускіх песень, другія, не дачакаўшыся рока, паціху разыходзіліся па намётах, адкуль гучалі родная ім музыка, мова нашых усходніх суседзяў ды бульканне.

У свой першы вечар фестываль нагадваў пацыента аддзялення рэанімацыі — ён паміраў і не мог памерці. Не мог ён і жыць — пераважная большасць спевакоў яўна не мела ніякага ўяўлення ані пра беларускую, ані пра бардаўскую песню наогул. Знудзіўшыся, апошнія слухачы разыходзіліся спаць.

Наступным ранкам мяне абудзіў гук басовага бубна. Дождж скончыўся, і доўгавалосыя хлопцы наладжвалі на сцэне апаратуру ды інструменты. Падрыхтоўка цягнулася каля шасці гадзін, калі раптам галас сціх. У нечаканай цішыні некалькі хлопцаў узышлі на пагорак і над полем узняўся вялікі драўляны крыж з Пагоняй і словамі памяці пераможцам у бітве 1514 года. «Ойча наш, які ёсць у небе...» — паўтаралі ўслед за ксяндзом, які асвячаў крыж, словы малітвы ўсе сабраныя.

Абрад скончыўся, і над полем зноў запанаваў настрой тусоўкі. Не прайшло і гадзіны, як пачаўся канцэрт другога дня. Але характар гукаў, што ляцелі са сцэны, змяніўся мала: стыль выканання музыкаў больш нагадваў працэс наладкі апаратуры. Адпаведнымі былі і тэксты песень — на англійскай мове з рэчыцкім акцэнтам новае пакаленне беларусаў спявала аб параноі, эўтаназіі, нябожчыках ды іншых цікавых яму рэчах. Адзін гурт змяняў другі, але ні стыль музыкі, ні змест песень не змяніўся. На пляцоўцы перад сцэнай падскоквалі некалькі аматараў металу. Неаматары трымаліся далей, не жадаючы набыць галаўны боль — слабасць ігры кампенсавалася гучнасцю. Апошняй на сцэну выйшла чарговая металёвая каманда з чарговай тыпова беларускай назвай «Годс таўэр», якая, у адрозненне ад сваіх папярэднікаў, паказала, што ўмее не толькі трымаць гітары, але і граць на іх. Слухачам паведамілі: музыкі так любяць родную старонку, што нават выконваюць адну песню па-беларуску і не абы-як, а мовай дзевятага стагоддзя, не патлумачыўшы, праўда, што гэта за мова і хто аўтар вершаў. Але сёння, прагучала далей, гэтая выдатная песня выконвацца не будзе. Слевы і надалей гучалі на роднай мове англамоўных беларусаў.

З цяжкасцю адшукаўшы вядучага фэсту Юрыя Копціка, які з сваімі даўгімі валасамі, чорнай курткай і ланцугом на руцэ лёгка губляўся ў натоўпе металістаў, я спытаў, як трапілі сюды людзі, мякка кажучы, выпадковыя.

— Мы запрасілі гомельскі гурт «Годс таўэр», але разам з ім прыехалі яшчэ чатыры каманды. Няёмка было ім адмаўляць...

Трохі паспрачаўшыся, беларускія ці не гучалі сёння песні, мы разышліся. Рок-канцэрт скончыў-

*(Працяг на с.7.)*

Падрабязнасці

***Як паведамлялася ўжо, у пісьменніцкім Доме творчасці «Іслач» адбыўся Другі Міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры. Яго арганізаваў Беларускі пэн-цэнтр пры падтрымцы Беларускага фонду Сораса. 100 чалавек — пісьменнікі і журналісты, правазнаўцы і гісторыкі, палітолагі і палітыкі, навукоўцы разнастайных гуманітарных накірункаў — прадстаўлялі 15 краін свету. Яны разважалі на даволі балючую тэму — «Незалежная прэса: свабода і адказнасць».***

# У абарону вольнага слова

## 1. Філасофія Васіля Быкава

Выступленне прэзідэнта пэнцэнтра народнага пісьменніка Беларусі і слыннага публіцыста Васіля Быкава ў першы дзень працы кангрэса паклала філасофскі пачатак размове на кангрэсе менавіта пра тыя разбуральныя працэсы, якія зведвае наша культура ў постсавецкім, посттаталітарным грамадстве. Свабода мастака, аўтара выказвацца і дыктатарскія рэжымы — рэчы не проста не сумяшчальныя, што ў XX стагоддзі ўжо засведчылі фашызм ды бальшавізм. Васіль Быкаў заўважае: «Тое, што заснавана на няволі і прымусе, не мае патрэбы ў прыгажосці і праўдзе». Гэта, так бы мовіць, культурныя імператывы. Іх, як заначыў народны пісьменнік, не абвергнеш, бо для дыктатарскіх рэжымаў культура — сірата, таталітарызму яна наогул не патрэбная.

І сучасная культура пераўтвараецца ў абсурд.

Галоўным сродкам мастацкай выяўнасці амаль усіх відаў мастацтваў робіцца эпатаж, шокінг, імкненне ўразіць, задурманіць, эстэтыка музычнага выяўлення даўно ўвасобілася ў колькасці дэцыбелаў; традыцыйна непрымальны ў хрысціянскай культуры адкрыты, дзікі секс набывае галоўны змест усіх візуальных сродкаў мастацтва і паспяхова ўкараняецца ў літаратуры. Вызначальная ў культуры катэгорыя якасці спрэс падмяняецца супрацьлеглай катэгорыяй колькасці, што, бы ў фінансавай сферы, робіцца вызначальнай поспеху. Стандарты камерцыйна-гандлёвай маскультуры амаль цалкам захапілі музыку, кіно, выяўленчае мастацтва, паспяхова апаноўваюць тэатр і літаратуру. Прыгажосць з вышэйшага, сакральнага боства, якім было ў чалавечай цывілізацыі, ператвараецца ў папулярны шырспажыў, крыніцу мільённых прыбыткаў для спрытнюг і нахабнікаў ад мастацтваў, чаму не ў малой ступені садзейнічаюць поўныя палітычныя сілы, зразумела, ва ўласных, асабліва палітычных мэтах, лічыць народны пісьменнік.

Што ж такое сённяшняя масавая культура?

Васіль Быкаў сцвярджае: «Маскультура — не культура наогул, якой часам здаецца, а яе антыпод, немінучы яе магільшчык».

Аналізуючы далей небяспечнасць для грамадства маскультуры, народны пісьменнік робіць выснову, «што прадукты яе распаду дзейнічаюць не толькі на амбіцыі дыктатараў, сілкуюць іх дыктатарскія эмоцыі, але і атручваюць свядомасць масавага грамадства», актыўна пранікаючы ў падсвядомасць, на генетычным узроўні развіваюць далёка не лепшыя інстынкты, закладзеныя ў чалавека дзікай прыродай. Нескароная ўлада нізкіх інстынктаў з маскультуры так ці інакш пранікае ў эканоміку, палітыку, цалкам абслугоўвае крыміналітэт, у горшы бок мяняе гістарычна сфармаваны менталітэт этнасаў».

Ну, а што ж мы, творцы? Дзе нашая пазіцыя? На вялікі жаль, немалая частка творчай інтэлігенцыі даўно пайшла на канфармізм, згоднікцтва з дыктатарскімі рэжымамі, капітулявала перад разбуральнай сілай антыкультуры, якая на руку ўладатрымальнікам. Пазіцыя мастака «над схваткай», яго духоўная калабарацыя з дыктатарамі, чыя ідэалогія — працяг колішняй імперскай палітыкі з парушэннем правоў Чалавека, асуджае творцу на духоўную паразу, а культуру — на выраджэнне. Так лічыць Васіль Быкаў. І гэтаму пярэчыць вельмі цяжка — трэба толькі зірнуць на кніжныя латкі да паліцы, раскрыць многія часопісы ды штотыднёвікі, пасядзець вечар-іншы перад тэлевізарам. Яскравы прыклад гэткага канфармізму — фільм Юрыя Азаронка «Нянавісць. Дзеці хлусні...»

І падобны наплыў антыкультуры спыніць не проста — яна мае вялікія грошы, якімі яе забяспечвае ідэалагічная надбудова маючых уладу дыктатарскіх рэжымаў, што па назіранню Васіля Быкава «паспяхова мімікруюць пад дэмакратыю». «Яны штурхаюць культуру на ўзровень служкі за ўсё і з яе дапамогай канчаткова нішчаць і без таго ніцыя парасткі дэмакратыі. У масавай свядомасці між тым ідзе актыўны працэс дыскрэдытацыі ідэяў дэмакратыі наогул. Уласная дэмакратыя для беларусаў паранейшаму вельмі праблемная нават у аддаленай будучыні».

Якое ж выйсце бачыць прэзідэнт Беларускага пэн-цэнтра з дадзенай сітуацыі? Якую бачыць магчымасць, каб папярэдзіць агонію культуры?

Гэта перш-наперш — адраджэнне нацыянальнай культуры на еўрапейскіх гуманістычных традыцыях, «якія доўга падаўляліся ў нас». Менавіта гэтыя традыцыі, сцвярджае народны пісьменнік, яшчэ паслужаць і нацыі, і чалавецтву, бо культура бязмежная ў прасторы і, «будучы нацыянальнай па паходжанню, належыць усяму чалавецтву». Бо культура — прадукт чалавечай цывілізацыі, існасць яе нязменных каштоўнасцяў.

Але, заўважае Васіль Быкаў, тут ёсць складанасць: адраджэнню сапраўды нацыянальнай і сапраўды гуманістычнай культуры патрэбныя адпаведныя ўмовы — «дабратворная атмасфера, адкрытае свету, зусім дэмакратычнае грамадства, да якога мы імкнёмся. А без дэмакратыі, якой бы праблематычнай яна ні была, няма будучыні, як няма і самой культуры».

## 2. Што да Закона аб друку...

Гэты раздзел справаздачы пачну з вельмі цікавага, на маю думку, дакумента, які за подпісам намесніка старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека Анатоля Вярцінскага прыйшоў 29 жніўня 1995 года на імя прэзідэнта Беларускага пэн-цэнтра Васіля Быкава. Як раз напярэдадні пачатку працы кангрэса:

**«Шаноўны спадар прэзідэнт! Хацеў бы давесці да Вашага ведама, а праз Вас і да ведама ўдзельнікаў Другога Міжнароднага кангрэса пэн-цэнтра ў абарону дэмакратыі і культуры наступную даведку.**

**Як Вы памятаеце, на Першым Міжнародным кангрэсе пэнцэнтра разглядалася і пытанне аб праекце Закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі». Была прынята Дэкларацыя кангрэса «Аб абароне свабоды слова і забяспечанні права на інфармацыю ў Беларусі», дзе змяшчаліся і крытычныя заўвагі ў адрас законапраекта, а таксама былі потым сфармуляваны, у парадку заканадаўчай ініцыятывы пэнцэнтра, адпаведныя заўвагі і дапаўненні для разгляду іх у працэсе падрыхтоўкі і прыняцця закона. Заканадаўчая ініцыятыва пэн-цэнтра была падтрымана Міжнародным кангрэсам і даведзена да ведама членаў дэпутацкай Камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека. Большасць прапаноў была ўхвалена.**

**На жаль, не ўсе яны былі падтрыманы большасцю Вярхоўнага Савета падчас прыняцця Закона ў другім чытанні (канчаткова ён быў прыняты 13 студзеня г.г.). Але ў той жа час некаторыя палажэнні і нормы Закона ўдалося ўдасканаліць у адпаведнасці з прапанованымі пэнцэнтра, а таксама з рэкамендацыямі, якія былі выпрацаваны на Міжнароднай канферэнцыі на тэму «Закон аб друку і працэс дэмакратызацыі», праведзенай у маі 94-га года Мас Медыа Цэнтрам у Мінску — праект фонду Сораса — Беларусь. Так, напрыклад, з артыкула 4 Закона («Недапушчальнасць цэнзуры масавай інфармацыі») было знята патрабаванне папярэдне ўзгадняць паведамленні і матэрыялы з некаторымі катэгорыямі асоб; затое вызначэнне паняцця «цэнзура масавай інфармацыі» было дапоўнена ў канчатковым варыянце словамі: «...а таксама патрабаванне зняць з друку (эфіру) той ці іншы матэрыял або паведамленне». Узмоцнена пазіцыя суб'ектаў СМІ ў плане права на атрыманне інфармацыі, «права ведаць» у артыкулах 32 («Права на атрыманне інфармацыі») і 33 («Выпадкі адмовы або адтэрміноўкі ў прадстаўленні інфармацыі»). Уведзены новы, у параўнанні з першымі варыянтамі законапраекта, артыкул 41 «Гарантыі сацыяльнай абароны журналіста». Што датычыць артыкула 45 («Адказнасць за злоўжыванне свабодай масавай інфармацыі»), дзе дапускалася занадта вольнае, двухсэнсоўнае вытлумачэнне так званага «злоўжывання правамі журналіста» («...распаўсюджванне чутак пад выглядам дакладных паведамленняў», «...збор інфармацыі ў карысць пастаронняй асобы...» і г.д.), то гэты артыкул выключаны з закона цалкам. Гэтак жа, як зняты і артыкул «Кампенсацыя маральнай шкоды», які заахвочваў, па сутнасці, чыноўнікаў прыцягваць да судовай адказнасці рэдакцыі або асобных журналістаў за нібыта нанесеную абразу іх «гонару і годнасці».**

**Нельга не прызнаць у той жа час, што на тэксце Закона, на некаторых яго артыкулах і палажэннях адбіліся, не маглі не адбіцца, асаблівасці той грамадска-палітычнай і ідэалагічнай абстаноўкі ў рэспубліцы, для характарыстыкі якой ключавымі паняццямі могуць быць словы «пераход» і «няпэўнасць».**

У многіх узнікла пытанне: дык за што змагаліся? Закон, пра які казаў Анатоль Вярцінскі, мала таго, што недасканалы, але і гэткі не працуе. Паміж тым як «Хартыя вольнасцяў» для СМІ і найперш для прэсы, якая замацоўвалася ў прысавецкі час Законам аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі ў СССР і якая прызнавала каля дзевяці гадоў на Беларусі, нягледзячы на поўныя недахопы, была даволі сур'ёзнай перашкодай на шляху многіх антыдэмакратычных праяў.

Зразумела, незалежнай дзяржаве быў патрэбны свой Закон, які тычыўся б правоў і абавязкаў прэсы, журналістаў, заснавальнікаў ды выдаўцоў. Рэакцыя ў парламенце вельмі добра ведала: гэты Закон можа стаць лёсавызначальным для развіцця дэмакратыі ў краіне. Некалькі гадоў адпаведная Камісія ВС распрацоўвала дакумент, потым яшчэ цэлы год прымала яго.

Знарок — без шырокага належнага абмеркавання грамадзянамі ды без уліку меркаванняў журналісцкіх калектываў.

А тым часам «учарашнія» звярэлі. Яны проста зацягалі па судах журналістаў і пісьменнікаў-публіцыстаў, якія выступалі супраць адэптаў таталітарнай сістэмы. У 1994 годзе такіх спраў налічвалася 130, з якіх толькі 20 выйгралі журналісты. З рэдакцый і аўтараў спаганяліся велізарныя штрафы на карысць тых жа дзяржаўных чыноўнікаў кшталту спадара Данілава, чыю «годнасць і гонар» закранула прэса. Журналісты чакалі справядлівага Закона.

Але што атрымалі? Мяркуйце самі.

**Па-першае, Закон не абараняе прэсу і аўтара. Гэты дакумент не ўводзіць тэрмін іскавай даўнасці прэтэнзій да журналіста, хаця па Закону аўтар павінен захоўваць у сваім архіве матэрыялы, на падставе якіх рыхтавалася публікацыя (копіі дакументаў, пісьмовыя сведчанні апытаных грамадзян, дыктафонныя плёнкі і г.д.), роўна год. Закон не звяртае ўвагу судовых органаў на тое, што вінаватасць журналіста або рэдакцыі павінна быць належным чынам даказана і ў крымінальных, і ў судовых справах, што ўсялякі сумнеў павінен тлумачыцца на карысць аўтара і рэдакцыі, якія валодаюць у такіх выпадках прэзумпцыяй невінаватасці. Журналісты ў сваёй пераважнай большасці лічаць: Закон павінен быў увесці таксама поўныя абмежаванні для поўнай катэгорыі асобаў зводзіць свае рахункі з друкаванымі органамі праз суд, як гэта, між іншым, прынята ў цывілізаваных краінах. Там чыноўнікі дзяржаўнага рангу на ўсіх паверхах улады не маюць права менавіта праз суд прад'яўляць прэтэнзіі да журналістаў і рэдакцый ды настойваць на іх матэрыяльнай адказнасці за маральны ўрон пацярпелых ад той ці іншай публікацыі. Ім згодна цывілізаваных нормаў права для выказвання свайго пункту гледжання прадастаўляецца месца на старонках друкаваных органаў-«крыўдзіцеляў».**

**У Законе не вызначана і мяжа матэрыяльнай адказнасці аўтараў і рэдакцый за нанесены ўрон пацярпелым па выніках судовых спраў: дзяры, начальнік, колькі ўздумаецца!**

**У Законе не знайшло месца і тое, што як аўтары, так і органы друку не павінны пераследавацца з прычыны іхніх палітычных перакананняў, веравызнання, прыналежнасці да той ці іншай нацыянальнасці. А такі запіс на сённяшні час быў бы надзвычай патрэбны, калі панславісцкая шавіністычная раць распачала сапраўдную вайну супраць дэмакратычнай журналістыкі толькі за тое, што мае смеласць выказаць свае погляды на грамадскае жыццё, беларускасць, на ход эканамічнага развіцця, на палітычныя і міжнацыянальныя дачыненні ў краіне. З Закона быў выкінуты той раздзел, які абяцаў заахвочваць развіццё менавіта нацыянальнай, беларускамоўнай журналістыкі.**

*(Працяг будзе.)*

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**сябра аргкамітэта Беларускай асацыяцыі журналістаў, спецыяльны карэспандэнт «Нашага слова».**

# Уздоўж Пцічы

Працягваецца экскурсійны сезон у клубе аматараў беларускай гісторыі і культуры пры «беларускай хатцы» ў Менску. 20 жніўня адбылася вандроўка па старых сядзібах менскіх ваколіц. Тэматыку падарожжа ў значнай ступені падказала нядаўняя выстава ў Мастацкім музеі твораў С.Жукоўскага, які на сваіх карцінах адлюстраваў дух старых шляхецкіх сядзіб Беларусі. Цікавую экскурсію па выставе правяла даўні сябра клуба, мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн. А багаты матэрыял, што з'явіўся апошнім часам пра Ельскіх і комплекс «Дудуткі», вызначыў накірунак вандроўкі — уздоўж Пцічы.

Няшмат захавалася маёнткаў ці нават іх рэштак. Але нават па тым, што засталося, можна ўявіць, якую прыгажосць мелі сядзібы, бо стваралiся яны ў маляўнічых мясцінах па берагах рэк, з цудоўнымі краявідамі, на натуральных ці штучных пагорках і тэрасах.

Лепей за іншыя выглядае сёння Лошыца, дзе вядуцца рэстаўрацыйныя работы. У мінулым стагоддзі ў Лошыцы збіралася дэмакратычная інтэлігенцыя Менска, частым госцем тут быў В.Дунін-Марцінкевіч. Як Лошыца, так і недалёкія Каралішчавічы належалі тады Прушынскім. У Каралішчавічах пісала сваю кнігу «Літоўская гаспадыня» вядомая жанчына XIX ст. Ганна Цюндзявіцкая. У гэтай вёсцы мы наведалі магілу вядомага паэта-«узвышэнца» Язэпа Пушчы. Своеасаблівая сядзіба — дом творчасці пісьменнікаў імя Я.Коласа — да 1986 года месцілася ў Каралішчаўскім лесе. Стары будынак з мемарыяльнай плітой Я.Коласу цяпер стаў часткай Дома адпачынку «На ростанях». Усіх уразіў прыгожы сядзібны дом Вільгельма Ельскага, абкружаны экзотамі, у Ігнацічах. Тут гаспадар меў вялікія гадавальнікі і аранжарэі, дзе вялася селекцыйная работа. Праз колішнія шляхецкія засценкі (Самуэлева, Шабуні, Ніціеўская) шлях пралягаў у Дудзічы. У спякоту прыемна было наталіць смагу з дудзіцкай крыніцы. Па рэштках шлюзавай сістэмы (якая не мела аналагаў на Беларусі) на Пцічы мы адправіліся ў музей рамёстваў «Дудуткі» фірмы «Паліфакт». Аканом сядзібы В.Я.Сарока з задавальненнем прыняў менскіх гасцей і правёў па ўсіх залах музейна-вытворчага комплексу. Суседняя з Дудзічамі Замосце належала краязнаўцу Аляксандру Ельскаму. На жаль, пра сядзібу нагадваюць толькі старыя лістоўнічныя прысады. Рэшткай колішняга «Герадотава мора» лічыцца Сяргееўскае возера. Міма яго мы кіраваліся ў Таўкачэвічы — былы маёнтак Грабоўскіх, суседзяў Ельскіх. Тут захаваліся сажалкі, парк і свіран.

У падарожжы былі сустрэчы з цікавымі людзьмі. У вёсцы Пціч жыве 86-гадовы Аляксандр Іванавіч Кучынскі, былы настаўнік беларускай мовы, чалавек складанага лёсу, які знаёмы з У.Дудзіцкім, С.П.Шушкевічам і іншымі беларускімі пісьменнікамі. С.П.Шушкевіч прысвяціў яму верш, які мы змаглі прачытаць у гаспадара. Захоўвае ён і старыя фотаздымкі сваіх сяброў. А ў Шацку, дзе завяршылася падарожжа, мы сустрэліся з механізатарам Міхасём Міхайлавічам Тарасевічам. На месцах расстрэлаў фашыстамі габрэяў і насельнікаў мястэчка Шацк ён паставіў створаныя ім самім і асвянцоныя праваслаўнымі святарамі помнікі бязвінным ахвярам вайны.

Экскурсія паказала багацце гісторыі і цікавасць, якую маюць многія амаль невядомы сёння мясціны ваколіц беларускай сталіцы, а таксама іх жыхары.

**Ігар ГАТАЛЬСКІ.**

Згадкі

# Размова сястрыц

**Да 100-годдзя Ванды ЛЯВІЦКАЙ**

Сястрыца, сястрычка... Гэтак проста і шчыра, неяк па-свойску называлі колісь адна адну ў сваёй далёкай маладосці Зоська Верас, тады Людвіка Сівіцкая, і дачка пісьменніка Ядвігіна Ш. Ванда Лявіцкая — ім лёсіла не адзін год разам жыць, працаваць. Гэта было ў чатырнаццатых-семнаццатых гадах нашага стагоддзя. Затым даўнія сяброўкі не з свае волі згубілі адна адну. І надоўга. Кожная з іх пражыла нялёгкае, а нават і драматычнае жыццё. Але напачатку шасцідзесятых гадоў яны знайшліся. Радасць іхняя была неймаверная. Зоська Верас з гэтай нагоды пісала:«Вільня. 15.VIII.64

*Дарагая мая, мілая Вандачка!*

*Цэлы тыдзень, як атрымала Твой ліст, хаджу, як адурэўшая ад радасці, а нават шчасьця. Ці я спадзявалася, што яшчэ ў жыцці буду мець з кім падзяліцца і думкамі, і радасцю, і горам?.. Я паміма што жыву з дзяцьмі, вельмі адзінокая. Маладое пакаленне жыве сваім цяперашнім днём, а мы, старыя — нам можа даражэйшае тое, што было..., а і цяперашняе, асабліва тое, што баліць, не заўсёды выскажаш».*

Так, кожная з колішніх прыяцелек, колішніх сяброваў пражыла па-свойму нялёгкае жыццё. Аднак Зоська Верас мела адну адзіную перавагу перад сваёй прыяцелькай: яна была бліжэй да Беларусі, цікавілася, сачыла, што рабілася ў горадзе яе юнацтва — у Менску, якому было наканавана з рупнасці яе і яе аднадумцаў стаць сталіцай. Да яе часта завітвалі госці. Дый і ў самой Вільні цеплілася хоць якое беларускае жыццё. Ванда ж была цалкам адлучаная ад Беларусі. Яна страціла з Бацькаўшчынай усялякую повязь. І вось Зоська Верас, акрыленая, што знайшлася яе даўняя сяброўка, пачала катурхаць яе да ўспамінаў. І пачалі яны абедзве згадваць, як яны колісь працавалі на адраджэнне Беларусі. Пра гэта пераважна змест іхняга, адноўленага ў 1964 годзе ліставання.

Ванда Лявіцкая нарадзілася ў 1895 годзе. Сёлета ў верасні ёй сто гадоў. Сотыя ж угодкі Зоські Верас — Людвікі Сівіцкай — мы адзначалі ў 1992 годзе. То слухайма, як яны жылі, што турбавала іх, непакоіла.

**Ванда Лявіцкая**
**2.01.1965 г.**
**татарка Стаўропальскага краю**

*Дарагая Людачка!*

*Памажы мне ўспомніць адну штуку: ці была ў 1915 ці 16-м годзе выдана маленькая кніжачка Б.Тарашкевіча «Граматыка беларускай мовы»? Мне помніцца, што яна была ў жоўтым пераплёце, (як агортачная папера) і была ў прадажы ў «Бел. кнігарні». Мне пішуць, што гэта магло быць у 1918 г., а ў 18-м годзе ў нас ужо кнігарні не было — а была рэдакцыя на той жа Захараўскай вул., толькі не 24, а № 28 ці 30 — такая «галубятня» з бальконам, а я ўжо працавала ў школе, жыла на Старажоўскай № 1. Няўжо гэта мой «старческий бред»? Мне здаецца, я і цяпер бачу гэтую кніжачку — жоўценькую са светла-шэрай спінкай. Выд. Вільні. Ну, памагай, калі можаш! Можа ў каго яна захавалася?*

*Мяне просяць напісаць успаміны аб такіх дзеячах бел.руху, якіх я ведала. На тое, што я напішу, мала надзеі — здароўе часам добра, а другі дзень — ня хочацца жыць на свеце. А тут яшчэ, як бачыш, «zakrecenie mozgów» — путаю ўсё. — І людзей і падзеі — ды яшчэ шмат каго бачыла, а працаваць разам прыходзілася мала. Выбачай за шпаргалку — нашы спяць і не магу найсці паперы. Цалую, абнімаю.*

*В.Л.*

**Зоська Верас**
**Вільня. 16.III.65 г.**

*Даражэнькая мая Вандзя!*

*У весь час ня сходзіш з маёй памяці, а што не адразу напісала, то таму, што чакала адказу ад Веры Андрэеўны Тарашкевіч. Якраз сягоння атрымала ад Яе ліст. Яна сама граматыкі не мае, бо ў яе ўсё згарэла, але шукае ў людзей, і мне прыслала адрас таго чалавека (ён быццам мяне ведае, але я яго не), каторы можа граматыку дастаць — 1-ае выданне. Але і яны кажуць, што першае выданне выйшла ў 1918 годзе...*

*Сягоння я дастала ліст ад Алесі... Алеся піша, што ты прасіла напісаць усё аб М.Багдановічу. На жаль, яе яшчэ тады не было ў Менску, як Багдановіч прыехаў і выехаў. Якраз у мяне гэтых некалькі месяцаў жывуць у памяці. Максімаў бацька, працаваў вучыцелем у Менску, дзе ў 1891 годзе радзіўся Максім. Пасля Багдановічы выехалі ў Ноўгарад, а далей у Яраслаўль, дзе бацька працаваў як вучыцель гімназіі. У Яраслаўлі Максім скончыў гімназію і паступіў у юрыдычны ліцэй. У 1911 годзе прыязджаў у Вільню, каб пазнаёміцца з Бацькаўшчынай. А ў 1916 годзе, магчыма, адчуваючы, што нядоўга ўжо яму астаецца жыць, прыехаў у Менск, каб, як казаў, пабыць між сваімі і дыхнуць паветрам Бацькаўшчыны. Жыў увесь час у Бядулі на Мала-Георгіеўскай вуліцы, але і сьнедаў і абедаў у беларускай сталоўцы — «Хатцы» на Захараўскай. Тады сталоўкай загадвала мая мама і мы там жылі, помніцца ў апошнім тым даўгім пакоі. Максім Б. працаваў у магістраце, а я праз некалькі месяцаў працавала ў Земскім Саюзе, так што мы з Максімам кожны дзень разам снедалі і разам ішлі на работу — было па дарозе, а ўвечары пасля гарбаты ён доўга сядзеў у фатэлі ў тым пакойчыку, дзе балькон. Сядзеў без лямпы, пацёмку адпачываў-думаў. Мы не раз пыталіся: можа даць святло, але ён адмаўляўся: не, не нічога не трэба, мне так добра, спакойна!.. Вельмі не дбаў аб сабе, нават аб лякарствах не помніў. Мама мая ўзяла да сябе яго лякарствы і тры разы на дзень сама яму давала... Пад вясну 1917 года чуўся ўсё горш і горш. Тады здабылі грошы — як — не помню, гэтым займаўся Смоліч — і ўгаварылі яго ехаць лячыцца. Мы хацелі ўсе яго праводзіць, але ён не хацеў, пажагнаўся з усімі ў сталоўцы: праводзіў адзін Смоліч. Апошні час яму цяжка было гаварыць, а я, як помніш, дрэнна чула. І вось ён, жагнаючыся, сказаў маёй маме: «Мне трудна гаварыць, а п.Людвіка дрэнна чуе, хацеў бы сказаць шмат-шмат мілых слоў, як заеду — напішу». Не напісаў, не хапіла сілы...*

*Вандзя, я помню, што ты перапісвалася з Максімам яшчэ перад яго прыездам? Ці ў цябе нічога не захавалася? Я маю толькі маленькую карталюшку з гульні «ў пошту» і гэта ўсё. Гэтак выйшла, што ўвесь ліст праб М.Багдановічу.*

*Цалую моцна. Твая Люда.*

**Ванда Лявіцкая 26.III.1965**

*Людачка, родненькая!*

*Даруй за маўчанку. Перахварэла, страціла сілу, а яе і так мала было. Нават пісаць ня хочацца. Ведаеш — нічога ня хочацца. Ляжу, чытаю — помню толькі тады, як чытаю, назаўтра, мабыць, не расказала б. А пісьмы атрымліваць люблю і чакаю.*

*Дзякуй табе за весткі аб Багдановічу. Жалею я яго ўсё жыццё за такую раннюю смерць. А другога — Алеся Прушынскага. Ты ведаеш, у яго (у Алеся) была сястра Зюня (Юзэфа). Яна вышла замуж за ваеннага-паляка, калі яны былі ў Мінску, і выехала з ім. У яго яшчэ быў брат — Антось, хлапчук лет 13—14, хуліган, злодзей і г.д. Маці яго — прачка, жанчына змучаная жыццём, несімпатычная, жыла з гэтым Анцікам, а таксама і Алесь у кухні гэтага дому, а я — там, дзе Вы з мамай (у гэтым доўгім пакоі). Адтуль я з сваім татам пайшлі жыць к Русецкаму (Старажоўская, д.1). Пасля мы з Язэпам там пражылі лет 5, так жа, толькі ў другой кватэры, жыў таксама лет 4—5 і Якуб Колас. Калі рэдакцыю (пры немцах) закрылі, а мы пераехалі, дык у гэтым пакоі, дзе Вы жылі з мамай, яны сталі жыць, і Алесь там хварэў сыпняком, і мы з Яз.Ю. яго праведвалі. Гэта было ў 19 годзе. Вось бачыш — там бы можна прыбіць якую-небудзь «дошку» у чэсць Максіма і Алеся — ды ўжо таго дому няма і следу. А цэрква ж.-дар. (яе так называлі) стаяла ў 59 г. на месцы. І касцёл той чырвоны, помніш — толькі там быў нейкі радыё-клюб, ці што.*

*Ну вот табе і ўспаміны, але сумбурна і бесталкова. Разбірайся!*

*Цалую цябе, прывет тваім.*

*Ванда.*

Надаралася, не толькі Ванда, але і Зоська Верас пра штось пыталася ў Ванды. Прынамсі, Зоська Верас папрасіла яе больш падрабязна, дэталёва расказаць ёй пра ратамскую навагодне-калядную вечарыну 1917 года, якую наведаў і Максім Багдановіч. Чаму пра гэту падзею папрасіла расказаць Ванду? Ванда жыла на тую пару ў Ратамцы і сама яе ладзіла. То як жа запомнілася тая ратамская калядная вечарына Вандзе, на якой быў і Максім Багдановіч?

**22 лістапада**

*Дарагая Людачка!*

*У Ратамцы ставілі мы дзіцячую п'есу твайго перакладу з польскай. Загалоўка яе не памятаю. Пачыналася гэтак:*

*Авечкі мае! Ох, мая матка!*
*Адна ляжыць — дзе ж цэлая статка?*
*Уся ў крыві, ляжыць на зямлі —*
*А тыя дзе ж — яшчэ авечкі дзве!*

*Змест гэтай п'ескі ты ўспомніш. Дзяўчынка-пастушка бяжыць у лес шукаць прапаўшых авечак, пападае да каралевы лесу (іграла гэту каралеву Жэня Маер, яе маці была ў нас тэхнічкай — няняй, у Маераў было чацвера дзяцей — самы маленькі двухгадовы Юзік). Каралева (ці можа як інačай) за працавітасць дзяўчынкі аддае ёй авечак. Пяялі песні — «Чаму ж мне не пець». «Дуб да дуба пахіліўся» і др. вершы: Купалы — (пачатак ніяк не ўспомню) канец*

*Янка тутка, Янка тамка*
*Хоць ты ў пекла прыся —*
*А прыдзірак ад святых усіх*
*Колькі нацярпішся!*

*Каганца: «адважна, браццы, напе-рад»... Галубка: «Будоўля» — «Кіпіць работа, плыве пот, і стук, і грук, як гром»...* ***Коласа — «У школу».***

*Здаецца, і ўсё, бо мы ставілі разам з другой школай — рускай, таксама дзяцей-уцекачоў. Дамоў мы вярнуліся і так позна. Я была дужа збянтэжаная: Жэню (каралеву лесу) мы дужа прыгожа адзелі, распусцілі ёй пышныя чорныя косы, адзелі вянок на галоўку, а забыліся.. асвяціць яе бэнгальскімі агнямі... Мне думалася, што ўвесь пасёлак ведае, што мы далі такога «маху». Села я дома і галаву звесіла, а Смоліч кажа: «Ныне атпушчаеши, господи, раба твоего»...*

*Гэта было ўсе лет 50 таму, а мне здаецца, што я і цяпер бачу Смоліча і нашу маленькую комнатку, дзе мы спалі і займаліся з Ядзяй Раткевіч. Гэты пакойчык наш быў дужа халодны — ацяпляўся ён печкай-жалезкай. Звечара — горача, а раніцай вада замярзала. А вот хто яшчэ прыязджаў тады, апрача Смоліча, ніяк не ўспомню. Мо ты ведаеш?*

*Людачка, не траціся на пасылкі мне кніжак. У нас жа адзін пакойчык і цесна, а зрабіць якія-небудзь полкі на сцяне — таксама нельга. Маленькая этажэрка ўжо поўная...*

*Гэта прыязджала не дачка Талстога, а яго сястра, здаецца, Софія, не памятаю імені. Было гэта ў 1916 г. летам ці пад восень, бо яна была ў белым пікейным касцюме, хоць ужо пажылая. (Мы ўсе звярнулі на гэта ўвагу, таму і запомнілася). Была яна не прыгожая, не сімпатычная. У рэвалюцыю яна апынулася нейдзе за граніцай, і мне давялося ў нейкім рускім журнале чытаць даволі злосную «стацейку», дзе яе раўнялі з «жабай» — у яе вочы навыкат — яна прасіла «жертвовать на издания творчества брата Л.Н.Толстога». Яна «посетила» ўнас толькі сталовую — дзеці нашы і той школы абедалі разам.*

*Ну, на сёння хваціць, а што чуваць у Мінску? Выйшла кніжка Мядзёлкі, ня ведаеш? А ты выпісваеш беларускія газеты ці журналы? Цалую, прывет сям'і.*

**В.Л. 1965 г.**
**Татарка, Шпакоўскі р-н,**
**Стаўропальскі кр.**

Зоська Верас вельмі турбавалася, каб Ванда мела хоць якое ўяўленне, што робіцца на Беларусі. У адным лісце да аўтара гэтай публікацыі яна пісала: «Ванда Л. з Менска не атрымлівала ніякай літаратуры... Сама яна не мела сродкаў, каб што выпісаць. Дачка, вучыцелька, зарабляла мала, а сына — ён інжынер — відаць, прасіць не хацела. Калі я напісала аб гэтым у Менск, мне адказалі: «Ваш ліст нас насмяшыў. Тут ідзе праца ў такіх маштабах, а ў Вас клопат аб нейкага аднаго чалавека: **«Што тут смешнага — я так і не зразумела».**

Вось гэтак даўнія сяброўкі, дзве з нашаніўскай пары адраджэнкі, раскіданыя злым лёсам на тысячы кіламетраў адна ад аднае, ліставаліся, размаўлялі між сабой, згадваючы даўно мінулыя дні і часы, падзеі, каштоўныя сваімі звесткамі не толькі для іх саміх, але і для нашае культуры, нашай гісторыі. Пакарыстаемася іхняй размовай належна.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

Замежжа

# Новая маскоўская газета «Литературные вести» пра Беларусь і беларусаў

## У палітыцы нельга «злёгку зацяжарыць...»

«Адыход ад улады двух з трох бацькоў «белавежскай змовы» зусім не наблізіў, як шмат хто спадзяваўся, рэінтэграцыю дзяржавы, што распалася. План аб'яднання Расіі ды Беларусі цераз агульную сістэму фінансаў праваліўся, бо сумяшчаць палітычны суверэнітэт з грашовай супольнасцю, высветлілася, гэтак жа нельга, як «злёгку зацяжарыць»... Але нейкая патавая сітуацыя захоўваецца і ў іх — на той жа Украіне, на той жа Беларусі. Тамтэйшыя камуністы, якія маюць ільвіную долю і ідэй, і ўлады, моцныя ў асноўным падтрымкай «рускамоўных» ды іншых «прасавецкіх» слаёў насельніцтва. Вынікае, вымушаныя так альбо інакш апеляваць да аб'яднаных ідэй. Але палохае іх нават не столькі гіпатэтычная неабходнасць зноў дзяліцца набытым (тут бы яшчэ здолелі дамовіцца як-небудзь), колькі сам вобраз новага гегемона, чыя дэмакратыя з мясцовай далечыні здаецца бязмежнай, тэмпы рэформаў — надзвычай высокімі...»

**(№ 2, 1995)**

## Так паміналі Алеся Адамовіча ў Маскве

«Ён быў чалавекам, блізкім па духу Андрэю Сахараву. Быў і застаўся маральным арыенцірам грамадства, для прыстойнага жыцця якога сумленна, прыстойна працаваў. Гэта думка не аднойчы гучала ў перапоўненай зале ЦДЛ, дзе праходзіў вечар памяці Алеся Адамовіча, арганізаваны Саюзам пісьменнікаў Масквы. Пра А.М.Адамовіча — пісьменніка, кінадраматурга, вучонага, грамадзяніна — успаміналі пісьменнікі Л.Разгон і Т.Кузаўлева, В.Аскоцкі і А.Анфінагенаў, А.Гербер і А.Нуйкін, М.Каралаў, Л.Жухавіцкі, В.Савельеў, Л.Лазараў. Вёў вечар Ю.Чарнічэнка. У вечарыне ўзялі ўдзел прадстаўнікі адміністрацыі Прэзідэнта РФ — С.Красаўчанка, А.Суркоў, старшыня Камітэта па друку РФ С.Грызуноў, сябры Беларускага зямляцтва, госці з Мінска».

**(№ 5, 1995).**

## Таццяна Кузаўлева: «Ня верце ім!» — крычала яго душа...»

«Ты цудоўная, Беларусь, але чаму злыя вятры ўвесь час дзьмуць у твой бок?» — гэтыя радкі з эпіграфа Алеся Адамовіча да аповесці «Венера, або Як я быў прыгоншчыкам», якая, здаецца, так і не была надрукаваная цалкам, — толькі раздзеламі, урыўкамі.

Злыя вятры... Яны білі ў сэрца Адамовіча з закатаванай і спаленай фашыстамі зямлі: білі з галодных ды халодных да- і пасляваенных беларускіх вёсак; білі з растрэльных нкусаўскіх ямін; білі з Чарнобыля. І моц іхняя часам здавалася невычэрпная.

— Ня верце ім! — пра злыя вятры крычала ягоная душа ці пра людзей, якія блаславілялі гэтыя вятры?

— Ня верце ім! — засцерагаў ён нас на VIII з'ездзе пісьменнікаў СССР, паказваючы на літаратурную наменклатуру ў прэзідыўме Вялікага Крамлёўскага Палаца. — Ня верце ім: яны адгарадзіліся ад нашых бедаў сваімі пісьмовымі сталамі і лецішчамі, сваімі прэміямі ды загранпаездкамі; яны занялі кругавую абарону і ніколі не пачуюць ні нашага абурэння, ні нашых слёз...

— Ня верце ім! — прагучала і на мінулагоднім судзе з нагоды захопу той жа ўчарашняй наменклатурай пісьменніцкіх правоў. — Ня верце ім!»

Гэта было яго апошняе выступленне. Апошняе заклінанне. Апошняя просьба, адрасаваная і суддзям, і нам, яго калегам. Такія людзі, як Алесь Адамовіч, заўжды нясуць у сабе боль, што не заглушыць, ад любой не справядлівасці. Ад прыгнятальнай напалову праўды. Ад усяго, што мучае ды прыніжае чалавека...

**(№ 6, 1995).**

## Гісторыя з геаграфіяй можа быць сумнай

«...Пытанне пра тое, ці характэрныя «зваротныя эфекты» для ўсенародных рэферэндумаў Беларусі, слаба вывучаны з прычыны недастатковай плебісцытнай практыкі гэтай незалежнай дзяржавы. Наступствы рашэння большасці тых, хто галасаваў, — умацоўваць сувязі з Расіяй па ўсіх напрамках і адвергнуць «нацыянальную» дзяржаўную сімволіку (у гістарычнай рэальнасці яна належала Вялікаму Княству Літоўскаму) на карысць «савецкай» (зараз пазбаўленай асноўных пралетарскіх атрыбутаў) — надзвычай неадназначныя...

І вось што яшчэ цікава: беларускаму прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку, які ўсчаў усю гэту гісторыю з геаграфіяй, удалося паралізаваць прадстаўнічую ўладу рэспублікі без усялякіх хітрых штучак з урэзваннем партыйных квотаў (якіх, дарэчы, у мясцовым парламенце ніколі не існавала)...

Калі ж Беларусі і сапраўды наканавана стаць федэратыўным утварэннем у складзе Расіі, — такі ход упаўне лагічны пры нашых усемагутных губернатарах ды рэспубліканскіх прэзідэнтах з іхнімі кішэннымі заканадаўчымі сходамі, як бы тыя ні называліся»

**(№ 8, 1995)**

## *Ад рэдакцыі «Нашага слова»*

*Як бачыць чытач, новая пісьменніцкая газета Расіі «Литературные вести», першы нумар якой убачыў свет у студзені 1995 года, імкнецца да пільнага асвятлення падзей у Беларусі, да аб'ектыўнай адзнакі гэтых падзей і з'яў. Зразумела, згаданая газета — для літаратараў, якія любяць сваю Радзіму — Расію, яны зычаць свайму народу дабра, міру і дабрабыту... Але ж гэтыя людзі, што вельмі важна для беларусаў, па-першае, паважаюць нашу суверэннасць, наша права мець і развіваць сваю мову, па-другое, клапоцяцца, каб у вачах беларусаў, украінцаў, прыбалтаў і чэчэнцаў Расія выглядала не як імперскі монстр, а як дэмакратычная вялікая краіна, дастойная самай шчырай павагі іншых народаў. Такім чынам, «Литературные вести» — гэта не імперскае дэмакратычнае выданне. Не дзіва, што ў менскіх кіёсках яго няма. А тыя нумары «ЛВ», адкуль мы зрабілі вытрымкі з асобных публікацый, наш карэспандэнт атрымаў ад галоўнага рэдактара «Литературных вестей» Валянціна Аскоцкага ў Доме творчасці беларускіх пісьменнікаў «Іслач», дзе на днях адбыўся Другі міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры на тэму «Незалежная прэса: свабода і адказнасць».*

*У канцы кожнага нумара, як вядома, пазначаюцца прозвішчы не толькі галоўнага рэдактара, але і сяброў рэдакцыйнай калегіі. Дык вось, прозвішча Васіля Быкава тут стаіць поруч з яго цёзкам Васілём Аксёнавым, выдатным паэтам і бардам Булатам Акуджавай, публіцыстам Анатолем Прыстаўкіным, сатырыкам Аляксандрам Івановым, паэтэсай Бэлай Ахмадулінай і іншымі паважанымі дэмакратычнымі пісьменнікамі, якіх сёння называюць сумленнем і гонарам Расіі. З такой Расіяй нам па дарозе. Але з такой Расіяй ніколі не пажадаюць аб'яднацца нашыя самыя заўзятыя агітатары за інтэграцыю і русіфікацыю.*

# ВЕРУЕМ

## Спалучэнне беларускасці з уцаркоўленасцю...

*З Іванам Аляксеевічам Чаротам, перакладчыкам, навукоўцам, гутарыць карэспандэнт «Нашага слова» Людміла Рублеўская*

**— Іван Аляксеевіч, у друку з'явілася інфармацыя, што пры Беларускім Экзархаце створана біблійная камісія і вы абраны яе сакратаром. Ці можна пагаварыць пра гэта падрабязней?**

— Чаму ж не? Дзякуй за ўвагу да факту і да справы, якая за ім. А праз нашу з вамі гутарку ёсць нагода абвергнуць распаўсюджанае меркаванне, быццам бы Праваслаўная царква цураецца беларускай мовы. Каб у чытачоў «Нашага слова» складвалася што паўнейшае ўяўленне, пачну з фонавых звестак: родная мова гучыць у большасці менскіх храмаў, па-беларуску вядуць шэраг тэле- і радыёперадач праваслаўныя святары, выходзяць часопіс «Праваслаўе ў Беларусі і ў свеце», інфармацыйны-бюлетэнь «Артапрэс», календары-кнігі, да таго ж і «Веснік Беларускага Экзархата», і газеты «Царкоўнае слова», «Епархіяльныя ведамасці» — не рускамоўныя. Асобнай гаворкі заслугоўваюць кнігі ды брашуры, якія выдаюцца Экзархатам і Праваслаўным Брацтвам Трох Віленскіх Мучанікаў... Хіба нейкая іншая канфесія мае штосьці падобнае?

Што ж да камісіі, дык яна стварылася не цяпер, існуе ўжо гады, і на пачатку працавала досыць актыўна, пра што сведчыць вынік — «Евангелле ад Матфея», на чатырох мовах, выдадзенае ў 1991 годзе. А цяпер, наколькі я разумею, узнікла патрэба ў абнаўленні яе складу і большай актывізацыі дзейнасці.

**— Які ж новы склад?**

— Па колькасці дванаццаць чалавек, узначальвае сам Уладыка Філарэт, намеснік яго — протаіерэй а. Георгій Латушка, у сакратарах — мая маленькасць, а ў актыве святары, багасловы, філолагі. Назваць імёны? Калі ласка, айцы Сергій Гардун, Георгій Сакалоў, Аляксандр Пачэпка, філолагі Алесь і Алена Яскевічы, Уладзімір Васілевіч, Валянціна Дышыневіч, выкладчык Духоўнай семінарыі Алесь Кароль, філосаф Мікола Матрунчык, гісторык і філолаг Таццяна Матрунчык, якая, дарэчы, укладала згаданыя вышэй календары, звод імёнаў святых...

І вось 6 верасня прайшло пасяджэнне, на якім разглядаліся арганізацыйныя пытанні, абмяркоўваўся план дзейнасці, а таксама вялася практычная праца над перакладам Евангелля ад Марка.

**— А якім чынам ідзе праца?**

— Працавалі саборна, ці як раней гаварылася, калектыўна. Уважліва, засяроджана, у грунтоўных дыскусіях выбіралася кожнае слова (падкрэсліваю: кожнае слова, кожны знак) Дабравесця, каб знайсці самы лепшы адпаведнік у роднай мове. А пры гэтым скарыстоўваўся і грэчаскі тэкст, і розныя пераклады на мовы свету.

**— А ці патрэбна гэта, калі ўжо ёсць пераклад Васіля Сёмухі?**

— Ёсць пераклады і Васіля Сяргеевіча Сёмухі, і Анатоля Канстанцінавіча Клышкі, і шэрагу іхніх папярэднікаў. Між тым, камісія ад пачатку ставіла (і цяпер яе трымаецца) задачу — пераклады рабіць непасрэдна дзеля ўнутрыцаркоўнага ўжытку.

**— І вы лічыце, што патрэбны асаблівыя нейкія тэксты?**

— Гэта не толькі і не столькі мая думка, а патрабаванне, як мы прывыклі казаць, аб'ектыўнае. Справа ж датычыцца не звычайных тэкстаў. Усе крытэрыі пераўвасаблення іх розняцца ад тых, якія прыдатныя ў адносінах да мастацкага перакладу. Заводзячы гаворку пра дакладнасць, мы на ўвазе павінны мець паўнату глыбіннага, сакральнага зместу. Калі вымагаем творчага падыходу, ні ў якім разе не зводзім яго да літаратурна-мастацкай творчасці ў традыцыйным разуменні. Хочам, каб знойдзены быў адпаведны стыль? А як жа, ды не сваёй воляю створаны, да Свяшчэннай першакрыніцы дададзены, прыўнесены...

Удакладню, што я тут не ацэньваў зробленае тымі высокапаважанымі калегамі, якіх мы называлі. Проста хацеў падвесці да меркавання: калі святары лічаць, што нейкі пераклад не зусім прыдатны, каб цалкам гучаць у богаслужэнні, трэба да гэтага прыслухоўвацца. Як-ніяк праваслаўная літургія на працягу года выкарыстоўвае поўны тэкст Чацвераевангелля. І калі Дабравесце прачытваецца, складваецца адпаведны настрой як агалошвання, так і ўспрымання. Тут важныя лад, стыль, інтанацыйны ключ, рытм і шмат іншага. Каб усё гэта было ў ідэале, дамагчыся вельмі і вельмі цяжка. Таму, дападобы нам гэта ці не, галоўным і апошнім словам павінна быць слова тых, хто кіруецца не адцягненымі меркамі, а патрабаваннямі царкоўнай практыкі, — за святарамі.

**— Выходзіць, за пераклад Святога Пісання чалавеку нецаркоўнаму брацца нельга?**

— І так, і не так. Пра зробленае шаноўнымі калегамі Сёмухам і Клышкам я чуў шмат добрых слоў ад прадстаўнікоў царквы. А вось выкарыстоўванне іхніх перакладаў — іншая справа. Зрэшты, не ў маёй кампетэнцыі вызначаць, што можа ўжывацца ў богаслужэнні, а што не. Магу толькі звярнуць увагу на прыклады, свежыя па ўспрыманні асабістым. Перагортваючы «Служэбнік» Аўтакефальнай Беларускай Праваслаўнай Царквы, я, хоць і не надта ў багаслоўі дасведчаны, часта спатыкаюся на выразах многіх і многіх. Напрыклад: «Смерцяю смерць патаптаў», «Бог наш, Хто ўзлівае ласку Сваю», «Багародзіцы і ўвесь час Дзевы Марыі», ды і «хлеб наш штадзённы» мяне бянтэжыць, пра што ўжо даводзілася гаварыць на старонках «Нашага слова». Магу таксама засведчыць — і ад гэтага не варта адмахвацца, — што пры чытанні Евангелля па-беларуску большасць прыхажанаў у храме рэагуе адмоўна, а некаторыя нават пакідаюць храм у гэты час.

**— Напэўна, яны не беларусы!..**

— Ні ў пашпарт, ні ў душу я зазірнуць не мог. А наконт беларускасці з такога пункту гледжання магу таксама прывесці свежы (для мяне ўразлівы) прыклад. Вось якога характару: суполка з паслядоўнай шчырай беларускай арыентацыяй накіравала Мітрапаліту Філарэту ліст з просьбаю адслужыць паніхіду па продках, якія загінулі ў Грунвальдскай бітве. І каб паніхіда служылася па-беларуску. Подпісаў там было дзесяткі. Уладыка згадзіўся без ваганняў, благаславіў святара Кафедральнага сабора на гэтую службу. Ды... у сабор з'явілася ўсяго некалькі чалавек, і тыя не дачакаліся самой паніхіды. Хіба не цікавае спалучэнне беларускасці з уцаркоўленасцю?.. Але мы, відаць, адхіліліся.

**— Пажадана, каб вы расказалі, што плануе зрабіць камісія.**

— У планах — пераклад усяго Чацвераевангелля, поўнага тэксту Новага Запавету, а на далейшую перспектыву — усяго Святога Пісання. Акрамя таго, правядзенне канферэнцый, распрацоўка царкоўнаславянска-беларуская слоўніка багаслоўскай тэрміналогіі і рэлігійнай лексікі.

**— Планы рэалістычныя?**

— Думаю, так. Істотна, што трывалым грунтам дзеля гэтага сталі напрацоўкі Праваслаўнага Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў, якое даўно ўжо сабрала актыў руплівых працаўнікоў, назапасіла патрэбны матэрыял, сабрала профільную бібліятэку, набыла выдавецкія правы і сякія-такія магчымасці... Праўда, усё тут дзеецца толькі «на грамадскіх пачатках». Карыстаюся магчымасцю звярнуцца да ўсіх, хто здольны падтрымаць Брацтва: ахвяруйце на справы, бясспрэчна важныя!

**— А ці збіраецца камісія прыцягваць яшчэ каго да супрацоўніцтва?**

— А яна з самага пачатку запрашае да агульнай справы ўсіх, хто жадае быць карысным. Раней праводзіліся семінары, канферэнцыі з удзелам навукоўцаў розных профіляў, была сустрэча з творчай інтэлігенцыяй. Хутка, 5 кастрычніка, плануецца правядзенне сумеснага пасяджэння з секцыяй перакладу Саюза пісьменнікаў. Добра было б, каб падключылася Тэрміналагічная камісія ТБМ... Дарэчы, на гэтым пасяджэнні будзе абмяркоўвацца «Малебен за беларускі народ».

Плануе камісія абвясціць конкурсы на лепшыя пераклады акафістаў, жыцій. Але на гэта пакуль няма сродкаў... Упіраемся ў звыклае, цяжка вырашальнае.

**— Але надзеі на лепшае ёсць?**

— Як жа інакш?

**— Ад імя газеты і чытачоў жадаем камісіі поспехаў.**

— Дзякуй. І вам таксама. Каб усе мы як мага лепш працавалі на карысць Беларусі.



«Дарога па святых мясцінах — шляхам Ефрасінні Полацкай з Непагаснай Лампадай Духоўнасці» — гэтак называецца навукова-творчая экспедыцыя, якая праходзіла на мінулым тыдні. Маршрут яе пралягаў праз Менск, Полацак, Быхаў, Рэчыцу і Тураў.

Галоўная мэта экспедыцыі — наведванне старажытных цэнтраў беларускае гісторыі, культуры і духоўнага жыцця. У часе экспедыцыі прайшла навукова-творчая канферэнцыя «Асветнікі зямлі беларускае».

**На здымку**: Захоўнік Непагаснай Лампады Духоўнасці айцец Сергій перадае Святы Агонь ад гроба Гасподняга прадстаўнікам рэчыцкага духавенства.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, Белінфарм.**

## Беларускае праваслаўе

*(Да візіту Патрыярха Алексія II у Беларусь)*

Праграма прадугледжвала наведванне Патрыярхам трох з дзесяці беларускіх епархіяў: Менскай, Гарадзенскай і Берасцейскай, дзе шмат каталікоў. А таму лагічна меркаваць, што адна з асноўных мэтаў паездкі — гарманізацыя адносін паміж БПЦ і каталіцкім касцёлам.

Кідаецца ў вочы, што Патрыярх не зрабіў ніякіх дзеянняў, якія маглі б палічыць за падтрымку прыхільнікаў стварэння ў Беларусі праваслаўнай палітычнай партыі і пераўтварэння БПЦ у дзяржаўную царкву, нідзе не абмовіўся дзеля падтрымкі якіх-небудзь формаў палітычнага ўціску на каталікоў і пратэстантаў.

Падчас прыёму Патрыярха А.Лукашэнка заявіў аб сваёй падтрымцы праваслаўя як «духоўнай асновы беларускай нацыі» і аб гатоўнасці прадоўжыць падтрымку БПЦ з боку дзяржавы.

Патрыярх не падтрымаў намеру прэзідэнта, а таму можна сцвярджаць, што ў адносінах паміж А.Лукашэнкам і РПЦ існуюць пэўныя складанасці, а Алексій II і Філарэт знаходзяцца адносна свецкай улады ў Беларусі на адным баку. Пакуль прэзідэнту Беларусі падначаліць царкву свайму ўплыву не ўдаецца.

У Расіі адначасова з узмацненнем чырвона-карычневых адбываецца паглыбленне ўнутраных супярэчнасцяў сярод царкоўнай іерархіі. Узмацняюцца пазіцыі прыхільнікаў Мітрапаліта Пецярбургскага Іаана ды іншых, што выступаюць за больш актыўную палітычную ролю царквы, за супрацьдзеянне канфесійным канкурэнтам палітычнымі метадамі.

Перад візітам Патрыярха ў Беларусь на Маскоўскім сінодзе РПЦ упершыню супярэчнасці паміж іерархамі перашкодзілі прыняццю некаторых рашэнняў, за якія выступаў і сам Алексій.

Над курсам Патрыярха Алексія — тыя ж хмары, што і над курсам мітрапаліта Філарэта, і тыя ж сілы — расійскія нацыянал-патрыёты — патрабуюць ад іх палітызацыі царквы і яе актыўнага ўдзелу на сваім баку ў палітычнай барацьбе.

Калі гэта сапраўды так, то не будзе перабольшваннем сказаць, што візіт Алексія II у Беларусь быў выкліканы ўціскам з боку гэтых палітычных сіл, здольных папракнуць яго за недастатковы клопат аб абароне праваслаўя ў Рэспубліцы Беларусь. А таксама — імкненнем атрымаць падтрымку з боку больш-менш адзінага і магутнага беларускага праваслаўнага святарства ў барацьбе з сваімі ўнутранымі і знешнімі супраціўнікамі ў Маскве.

(Аўтар артыкула згадвае пра намеры ўладаў Расіі і Беларусі актыўна заступіцца за праваслаўную царкву і ўвесці жорсткія абмежаванні, надзейнасць не праваслаўных канфесій, задае пытанні, чаму Алексій і Філарэт не схільныя прыняць гэтыя дары.) Праблема ў тым, што царква яшчэ не гатова прыняць на сябе місію ідэалагічнага ведамства. Бальшыня царкоўных абшчынаў у Расіі і ва ўсходняй Беларусі толькі-толькі створана. Вернікі толькі пачалі знаёміцца з асновамі абрадаў, не кажучы ўжо пра асновы веры. Святары, як правіла, не адукаваныя або адукаваныя не адпаведна, бо не было магчымасцяў падрыхтаваць святароў прыкладна для 8 тысяч новых прыходаў РПЦ, якія з'явіліся пасля 1988 года.

У такіх умовах царква, калі яна стане інстытутам дзяржаўнай улады, як таго хочуць некаторыя свецкія палітыкі, проста стане заложніцай палітычнай канъюнктуры ў ахопленай эканамічным і палітычным крызісам краіне. Прычым, усе ўдары супраціўнікаў уладнай групоўкі ў выпадку злучэння царквы з дзяржавай будуць накіраваны і супраць царквы. А гэтымі ўдарамі могуць стаць, прыкладам, стымуляцыя росту неправаслаўных канфесіяў або спрыянне ўнутраным расколам у самой РПЦ. Ад царквы пачнуць адыходзіць тыя людзі, якія шукаюць у ёй веру і прытулак ад мірскіх (чытай: палітычных) жарсцяў, гэта значыць тыя, хто складае аснову любой царкоўнай арганізацыі.

*(Працяг будзе.)*

**Скарочаны пераклад артыкула Ю.Шаўцова з газеты «Белорусский рынок».**

